PAŠAUKIMAS.
Baltgudžių visuomenės laikraštis.

# ПОКЛІЧ

## Беларуская грамадзкая часопісь.

▼▼▼▼

№ 3 (5) 15-га Жніўня—1926 г. Коўна.

Kaina 1 lt.

F. Sokolovskienės ir G. Lano spaustuvė Kaune. Tel. 793.

# Зьмест.

# Покліч

**выходзіць два разы ў месяц.**

**Цана нумэру 1 літ.**

Падпіска: на месяц—1 л. 75 ц.
на поўгода—8 л. 50 ц.

За кардон—на 50 цэнтаў у месяц даражэй.

Цана абвесткам з разрахунку 1 страніца 40 літ.; на абкладцы—ў два разы даражэй.

**Падпіс. і абвесткі прымаюцца ў магазыне „В-vė Knyga", Laisves al., 52.**

№ 3 (5). 15-га ЖНІЎНЯ—1926 г. Коўна.

*А. Палын.*

## Наша дарога.

Калючай і вузкай дарогай
да волі і шчасьця мы йдзём,
з турмаў, заводаў, капальняў,
з фабрык, і кузьняў, і швальняў,
з падвалаў і вёскі убогай
народ за сабою вядзём.

Роўнасьць, свабоду і брацтва
мы гэтаму люду нясём,
ад пана і ўласьніка волю,
працоўна-сялянскую долю
і усё сьветавое багацтва
яму мы у рукі даём.

Калюча і вузка дарога,
бо усе буржуа, як адзін,—
купцы, банкіры, фабрыканты,
душой сялянскай сьпэкулянты
згаварыліс (спытаўшыся ў бога!)
абярнуць нас у пыл і у дым.

Трудна і цесна дарога,
акружана зброяй, агнём,—
але ў царства любві ўсенароднай,
—ўсіх працоўных культуры свабоднай
мы, зьнішчыўшы ворага злога,
ўжо хутка са славай прыдзём.

# Да Літоўска-Савецкіх перагавораў.

Гэтымі днямі павінны распачацца Савецка-Літоўскія перагаворы ў першую чаргу па выпрацоўцы паміж умаўляючыміся старанамі targовай ўмовы і пакту гарантыі ад небясьпекі. Праэкты ўмоў распрацаваны ўжо даўно (яшчэ ў час былога ўраду), цяпер застаецца іх палагоджаньне і належнае афармленьне.

Наўкола гэтых перагавораў распачалася запраўдная палітычная „сьвістапляска".—Вынікамі ўмовы зацікавіліся ня толькі дагаворваючыяся стораны, а разам з імі і цэлы шэраг вялікіх і малых дзяржаў. І ня дзіва. Сучасны статус на ўсходзе Эўропы прызнаецца ўсімі не нармальным, а таму і не трывалым.—Кожны крок усходне-эўропейскіх дзяржаў разглядаецца з пункту гледжаньня—насколькі ён робіць уплыў на сучасную міжнародную сітуацыю,—ў які бок схіляе раўнавагу.

Небясьпеку сучаснага становішча адчуваюць усе, але, па-перш, кожны разумее яе па-свойму і, па-другое, зьявілася шмат ахвотнікаў спекуляваць на ёй, заняўшы становішча „tercius gaudens".

Вынікі Савецка-Літоўскай умовы, вядома, вельмі цікавяць і беларусоў, бо інтэрасы беларускага народу, як раўнапраўнай стараны, будуць таксама прэдстаўлены дэлегацыяй Саюзных Рэспублік.

Перагаворы павінны стварыць новы этап у справе літоўска-беларускіх адносін.—Да гэтага часу літоўска-беларускія адносіны насілі пераважна дэклярацыйны, паказны характар; пасьля умовы павінна распачацца дзелавое супрацоўніцтва.

Есьць цэлы шэраг літоўска-беларускіх канкрэтных (як эканамічнага, так і палітычнага зьместу) пытаньняў, якія павінны развязаць (або устанавіць напрамак для развязаньня) маючыя распачацца перагаворы.

А ўласьне: **У сэнсе гаспадарчым**—1) Беларусь мае шмат супольнага з Літвою,—масавыя экспортныя тавары гэтых краін, амаль, адныя і тыя самыя—лес, лён і, агулам, прадукты сельскай гаспадаркі.

Спатыкаючыся на рынках Зах. Эўропы экспарцёры Літвы і Беларусі павінны згаварыцца, скаардынаваць сваю чыннасьць.—Экспортныя тавары гэтых краін (палуфабрыкаты і спажывецкія прадукты) заўсёды будуць мець запатрабаваньне

і збыт, а таму баяцца канкурэнцыі не прыходзіцца; трэба супольна паклапаціцца, каб рэалізацыя тавараў адбывалася на добрых варунках.

2) Шляхі сувязі з замежнымі народамі, з пакон-веку, беларусы мелі і, пераконаны, будуць мець праз Літву.—Гэтыя шляхі, іх сутычнасьць і ўпарадкаваньне (для агульнай карысьці абодвых народаў) патрабуюць супольных высілкаў.

3) Нармальнаму развіцьцю эканомікі абодвых народаў перашкаджае адзін і той-жа вораг: ад літоўцаў ён адабраў сталіцу, а беларусам, як былінны салавей разбойнік, штучна „перасек шляхі“, „нарабіў застаў“, ды апроч гэтага, зьняволіў і прадаўжае мардаваць некалькі мільёнаў беларускага жыхарства.

4) Пачынаючая развівацца літоўская гатунковая прамысловасьць зможа знайсьці сабе шырокі збыт (а ў выпадку патрэбы і сыраўцы для прамысловасьці) як на беларускіх абшарах, так і агулам—на абшарах Саюзных Рэспублік,— дзякуючы чаму літоўская прамысловасьць атрымае магчымасьці для свайго буйнага росквіту. Патрэба развіцьця прамысловасьці ўсім зразумела, дзякуючы ёй жыхарства павялічвае рэсурсы сваёй краіны,—чалавек сваёй працай творыць, набывае народнае багацьце.—Кожны завод нібы павялічвае дзяржаўныя абшары на сотні і тысячы дзясяцін, бо дае працу сотням і тысячам працаўнікоў. Толькі росквітам прамысловасьці Літва здолае затрымаць свой эмігранцкі паток і звязаць з сабою эміграцыю—даць ёй перспэктывы—зьвярнуцца на Бацькаўшчыну.

Моцная сувязь Беларусі з Саюзнымі Рэспублікамі забясьпечвае беларускаму народу падставы для адбудовы і пашырэньня прамысловасцы*). Па нашаму пераконаньню дабіцца (ў агульна-гаспадарчых мэтах) сталага, яснага, прадуманага і абгаворанага паразуменьня з Саюзнымі Рэспублікамі павінна і Літва.

Эканоміка Літвы—патрэбы жыцьця, для забясьпечаньня поступу дзяржаўнай гаспадаркі і дабрабыту жыхарства, чакаюць, вымагаюць належнага слова ад літоўскай палітыкі.

**У справах палітычных** таксама яскрава выяўляецца супольнасьць літоўска-беларускіх інтэрасаў.

---

*) Узрост здабыткаў прамысловасьці за апошні год, згодна афіцыяльным даным, павялічыўся на 50% (ад 46, 6—59, 5).

Трэба заўважыць, што палітычная сітуацыя на ўсходзе Эўропы вельмі запутаная; яна сталася дзякуючы рожнакалібернасьці і сіл, і чыннікаў, браўшых удзел у адшуканьні статуса-раўнавагі.

Справа пагоршваецца яшчэ і таму, што, карыстаючыся невыразным становішчам, знайшліся пабочныя чыннікі (Англія і яе прыслухачы), якія на абшарах усходняй Эўропы (ў тым ліку і ў Прыбалтыкы) жадаюць зводзіць свае разрахункі і спадзяюцца, ў сваіх мэтах, выкарыстаць сілы Прыбалтыкі.

Гэтую палітычную сітуацыю, як той Гордзіеў вузел, мо' і можна рассеч мячом і выклікаць ізноў агульна-эўрапейскі пажар. Але кажуць, што гэта ўсім не пажадана. Ці ёсьць на гэтае ахвотнікі, ці не,—пакажа будучына. Мне здаецца, што, ва ўсякім разе, імкнуцца да такога развязаньня справы не павінны народы Прыбалтыкі. Гэта зразумела, бо самастойнага становішча Прыбалтыка ў гэтай акцыі мець ня можа, а быць цацкаю, хоць бы і ў руках здольнага забаўніка, наўдаку, каб хто пажадаў.

У чым крыецца галоўная небясьпека? Што зрабіла гэткую завостранасьць сучаснага палітычнага становішча?...

Адказ ясны,—агрэсіўнасьць Польшчы.

Узгадаваныя ўсесьветнай вайною грабежніцкія інстынкты кінулі „зьнятую з крыжа“ Польшчу на „вялікую дарогу“— на авантуры. Адрадзіўшаяся, паўстаўшая да самастойнага дзяржаўнага існаваньня, Польшча пачала з таго, што ў 18 стагодзьдзі прывяло да скасаваньня Польскай дзяржаўнасьці. Там да гэтага часу прадаўжаюць істнаваць шляхецкія традыцыі; дзякуючы ім, там распаўдсюджваюцца (навет у колах працоўнага жыхарства) „бацылы мегаламаніі“, якія не даюць Польшчы супакою.—Яна, карыстаючыся выключнымі абставінамі, захапіла кавалкі беларускіх, літоўскіх і ўкраінскіх зямель. Вялікія дзяржавы патворствавалі шаленству „нарадзіўшагася дзіцяці“ і, з свайго боку, зрабілі Польшчы „калідор“.

Калі-ж стала відавочна, што гэтыя шаленствы ставяць у небясьпечнае становішча Польскую дзяржаўнасьць, дык пачалі „ратаваць“ Польшчу—падбухторваць яе да яшчэ большага шаленства.—Польшчу нашых часоў зусім адкрыта падрыхтоўваюць у гладзіатары, а разам з гэтым шукаюць ахвотнікаў— хто стаў-бы ўсуплаш з ёю.

Аказвааецца, ахвотнікі знайходзяцца. Але сярод іх не павінна быць Літва. Бо бяручы ўдзел у такіх „акцыях“, Літва ня толькі косьвенна апраўдала-б учынкі Жэлігоўскага, але паставіла-б пад пагрозу і сваю нацыянальную справу і дабрабыт яе насіцеля і асновапаложніка—літоўскае сялянства.

Літве, разам з Прыбалтыкай, прапануецца стаць усуплаш з Польшчай і выконваць загады ангельскай палітыкі.

Латвія нібы згаджаецца пайсьці на гэтым падвойным павадку і імкнецца пацягнуць за сабою сваіх суседзяў, у тым ліку, вядома, і Літву. „Парламенцёры“—прэдстаўнікі штабоў—ужо пасланы вітаць посьпехі польскага аружжа. Ці ня з гэткай мэтай прыежджаў сюды Ульманіс, каб запрасіць да кампаніі літоўцаў ехаць на польскае сьвята ў Вільню? Зразумела, што палякам было-б вельмі цікава бачыць на сваём віленскім сьвяце вайсковых літоўцаў і „плюнуць“... перад імі яшчэ раз на Сувальскую ўмову. На гэта палякі і ахвотнікі і майстры. Але-ж якая роля ў гэтай справе Латвіі, Эстоніі і іншых,—няўжо-ж і яны жадаюць пазьдзекавацца над Літвой?

Маючая распачацца акцыя ў апошніх сваіх мэтах вядзе да аружнага выбуху супроць Саюзных Рэспублік; бліжэйшыя яе мэты скіраваны на ўтварэньне наўкола Саюзных Рэспублік ваража настроенага поясу-пластыру, які-бы адсасываў, здаўліваў і ўстрымліваў тэмп гаспадарча-прамысловай адбудовы і эканамічнага ўзмацаваньня ў Савецкіх Рэспубліках.

Якія перспэктывы, якую карысьць ад гэткай чыннасьці—можа мець Прыбалтыка і, ў часнасьці, Літва?

Можна з поўнай аб'ектыўнасьцьцю засьведчыць, што гэткая тактыка знайходзіцца ў агранічнай суперэчнасьці з істотай Прыбалтыцкіх Рэспублік і з патрэбамі жыцьця народаў Прыбалтыкі:

1) Ініцыятары памянёнай акцыі, з мэтай замаскіраваць істоту справы, стараюцца запужаць народы Прыбалтыкі міравой рэвалюцыяй і III інтэрнацыяналам. Так, чыннасьць III-га інтэрнацыяналу нясе небясьпеку,—але каму?—Таму, хто жыве зыскам з паняволеных народаў і эксплёатацыяй працоўных. Што-ж тут ёсьць небясьпечнага для адрадзіўшыхся, складзеных працоўнымі народамі, дзяржаў Прыбалтыкі?! Гдзе тут суперэчнасьць іх інтэрасам?

Прыбалтыка пазбавілася становішча каленіі, скінула чужацкае панаваньне і паўстала для дзяржаўнага будаўніцтва

**разам і дзякуючы** Рэвалюцыі.—Гэта стварае арганічную сувязь лёсу Прыбалтыцкіх дзяржаў з Рэвалюцыяй, і таму Прыбалтыка ў стасунку да Рэвалюцыі ня можа выходзіць за рамкі абароны свайго суверэнітэту, ня можа набіраць сабе становішча антытэзы Рэвалюцыі. Ня можа, бо няведама **хто і што** будзе пасьля рэвалюцыі і як гэта **хто і што, на справе,** паставіцца ня толькі да дзяржаўных правоў (суверэнітэту), а навет і да нацыянальнага адраджэньня народаў Прыбалтыкі.

2) Свае існаваньне дзяржавы Прыбалтыкі грунтуюць **на праве.** А дзеля гэтага трэба унікаць, адмаўляцца ад уселякіх камбінацый, якія скіраваны на пагвалчэньне, прыгнечаньне чыйго-колечы права. Бо калі справа на ўсходзе Эўропы будзе вырашацца **сілай,** то гэткія прыклады і вынікі гэткай чынасьці будуць не на карысьць Прыбалтыкі.

Супрацоўніцтва Прыбалтыкі з Польшчай зьяўляецца косьвенна маральным апраўданьнем злачынства апошняй над беларускім, літоўскім і ўкраінскім народамі. Гэта з боку Прыбалтыкі нешта горшае, чымсь тое, што некалі зрабіў Пілат. Прадвечныя суседзі Прыбалтыкі—беларусы ў працягу многавекавога сужыцьця ніколі, нікому не зрабілі такой крыўды, каб ад сваіх суседзяў атрымаць нагэтулькі неўважлівыя адносіны да нашай нядолі. Беларусы (мабыць у сваёй наіўнасьці) чакалі ад сваіх суседзяў спачуцьця сабе, але ні ў якім разе не разлічвалі, што нашы суседзі акажуць маральнае падтрыманьне нашым гнабіцелям.

У набліжаючайся (прызначанай для выкананьня пад кіраўніцтвам Польшчы) авантуры, ў выпадку яе зьдзейсьненьня больш за ўсіх ахвяр змушана будзе панесьці мірнае беларускае жыхарства. Мы не жадаем, каб гэтыя ахвяры нясло яно, дзякуючы нашым суседнім братэрскім народам; тым больш, што гэта не патрэбна і навет шкодна народам Прыбалтыкі. Бо вынікам такога дачыненьня, ў канчаткавы момант будзе тое, што тым або іншым вяршыцялем судзеб будзе прадыктавана, пастаўлена пытаньне аб сучасным незалежным існаваньні гэтых рэспублік,— будуць накінуты варункі, абмежоўваючыя ня толькі інтэрасы, а і суверэнітэт Прыбалтыцкіх народаў.

3) Штучная варажасьць даводзе да нэгатыўных вынікаў для самых-жа дзяржаў Прыбалтыкі. Яна затрымлівае разьвіцьцё эканамічных зносін паміж дзяржавамі Прыбалтыкі і Саюзнымі

Рэспублікамі, ўстрымлівае ад вымагаемага патрэбаю жыцьця (ў зьвязку з географічным становішчам), распачацьця шырокага будаўніцтва; прыкладам рыжска-херсонскі канал даўно ўжо чакае свайго ўцелаішчаньня; пры сучаснай-жа задзёрыстасьці і воражасьці аднасін да Саюзных Рэспублік ня толькі ня можа распачацца будаўніцтва гэтага каналу, а навет пачынаць гутарку аб гэтым яксьці не прызваіта.

4) У дадатак, Польшча, апынуўшыся ў становішчы лідэра гэтай авантуры, паклапоціцца здаволіць патрэбы свайго „ганаровага пачуцьця“.—яна пастараецца на спадручных распаўсюджыць сваю гэгэмонію.

Палітыка і тактыка Прыбалтыкі павінна быць саўсім іншай, чым ёй раюць і падбухторваюць рожныя спекулянты па воражасьці.

Дэвізамі Прыбалтыцкіх дзяржаў павінны быць:

**Мір на Ўсходзе Эўропы,**

**Братэрства народаў Усходняй Эўропы і права іх на адраджэньне.**

Прыбалтыка павінна памятаваць, што права на адраджэньне мае і беларускі народ, які выкоўвае, ўцелаішчвае права свайго суверэнітэту ў складзе Саюзных Рэспублік.— Прыбалтыка таксама павінна паклапаціцца, каб права на нацыянальнае адраджэньне беларускай меншасьці ў Прыбалтыцкіх дзяржавах не трацілася, не зацiралася іншымі нацыянальнасьцямі, карыстаючыміся слабай нац. сьвядомасьцьцю беларускага, векамі з усіх бакоў прыгнятаўшагася, жыхарства.

Прыбалтыцкія дзяржавы павінны, ў рэшце-рэшт, зрабіць належныя вынікі з для ўсіх зразумелага становішча, што супакою на ўсходзе Эўропы перашкаджаюць „дзіцячыя замашкі“ адрадзіўшайся Польшчы.

Асягненьне сталага статусу не магчыма да тае пары, пакуль Польшча ня вернецца ў свае этнаграфічныя межы— па Бугу і Нараву.

Польшчай відавочна пагвалчан суверэнітэт літоўскага, беларускага і ўкраінскага народаў, і таму дзяржавы Прыбалтыкі павінны далажыць усяго свайго маральнага аўтарытэту і пераканаць Польшчу ў патрэбе шанаваць права на самаадзначэньне і адраджэньне суседніх народаў;—ў патрэбе адмовіцца ад літоўскай сталіцы і разам ад беларускіх і ўкраінскіх зямель.

Перспэктывы свайго нацыянальна-гаспадарчага развіцьця Польшча (прыкладам, мінулых стагодзьдзяў) грунтуе на асягненьнях свайго меча.—Ей, відаць, больш падабаюцца чужыя, чым свае землі, і яна ўвесь час пыжыцца і пнецца на абшары суседніх народаў. Трэба перанканаць Польшчу, што яна жыве ў другім квартале 20-га стагодзьдзя. Трэба больш зацікавіць яе ўнутранымі справамі,—зьвярнуць яе увагу і выклікаць замілаваньне да запраўдных польскіх зямель.—**Трэба стварыць для польскага жыхарства пажаданыя перспэктывы міру,**—перспэктывы ад поступу развіцьця яе культуры, прамысловасьці... Тагды польскае жыхарства абуздае сваіх імпэрыялістаў.

Утварэньне для польскага жыхарства перспэктыў міру павінна стаць заданьнем і Прыбалтыцкіх дзяржаў.

Беларусы і ўкраінцы (як адпаведныя чыннікі ў складзе Ўраду Саюзных Рэспублік) легка, нам думаецца, дабіліся-б і стварылі перспэктывы міру, дасягнулі-б паразуменьня з Польшчаю, калі-б дзяржаўныя інтэрасы апошняй прэдстаўлялі работніцка-сялянскія колы польскага грамадзянства.—У сучасных-жа варунках зрабіць уплыў на кіруючую дзяржаўнай справай польскую дэмакратыю, стварыць ёй перспэктывы міру, падгаварыць адмовіцца ад захопленых зямель суседніх народаў,—гэтае заданьне лепш за ўсіх маглі-б выканаць дзяржавы Прыбалтыкі. Гэта ня толькі патрэба жыцьця, а і маральны абавязак адрадзіўшыхся народаў усходняй Эўропы, выкананьне якога зьявіцца найлепшым апраўданьнем ладу дзяржаў Прыбалтыкі.—Зрабеце! Падзякуюць усе, запраўды, жадаючыя міру.

Можна спадзявацца, што маючыя распачацца Літоўска-Савецкія перагаворы высьвятляць сучаснае становішча і акрэсьляць шляхі для лагоднага, мірнага развязаньня (кімсьці наўмысьне падгатаванага) канфлікту на ўсходзе Эўропы.—Трэба думаць, што Літва (а за тым і іншыя дзяржавы Прыбалтыкі) дасьць яскравае сьведчаньне, што яна ня згодна пайсьці на прыманку спекулянтаў варажасьцю, не даложыць сваіх высілкаў для рэалізацыі, зьдзейсьненьня, скіраванай супроць Саветаў, завірухі на ўсходзе Эўропы.

Далей, перагаворы павінны зліквідаваць, адчуваючуюся невязку ў справе літоўска-беларускіх адносін, і паслужыць адпраўным пунктам для асягненьня пляновага (як гаспадар-

чага, так і палітычнага) літоўска-беларускага супрацоўніцтва. Адным з вынікаў гэтага супрацоўніцтва—павінен быць пера-гляд адносін ў стасунку беларускай меншасьці ў Літве, скіраваны на здаволеньне (як гаспадарча-эканамічных, так і нацыянальнага адраджэньня) патрэб беларускага жыхарства.

Перагаворы мусяць стаць адным з этапаў здабыцьця і ўцелаішчаньня сталага міру на ўсходзе Эўропы, ўзгрунтаванага на зьдзейсьненьні правоў, адрадзіўшыхся народаў усходняй Эўропы,—стаць этапам, спрыяючым узмацаваньню дабрабыту жыхарства ўмаўляючыхся старон.

*Пуцята.*

---

*М Бяздольны.*

# НЕ СМУЦІСЯ.

Сумуеш ты, плачаш, мой браце?
Глянь—птушкі спяваюць у полі,
Прыгожа звыжы глядзіць неба
І вецяр, дзьме ціха, па волі.

З касою касец ў сенажаці,
На ніве—гараты з сахою,
Жнуць жнеі, і песьні іх льюцца
Над роднаю мацяй-зямлёю.

Калышацца хвалямі збожжа,
Калосься галоўку зхіляюць,
Аднолькава ўсіх лагадліва
Яны спатыкаюць, вітаюць.

Мо' хворы ты, мілы мой браце?
Ці думкі цябе дапекаюць?
Пакінь!... Да змаганьня рыхтуйся...
Да працы... Цябе там чакаюць.

# Інтэрв‘ю са старшынёй Саюзу Літоўскіх Стрэлкоў палкоўнікам Даўкантам.

5 жніўня сёл. г. наш супрацоўнік быў прыняты старшынёй С. Л. Стрэлкоў палк. Даўкантам, які падзяліўся сваімі думкамі і інфармацыямі па некаторым, закранутым карэспендэнтам, пытаньням, датычачым справы беларуска-літоўскіх адносін і сучаснай палітычнай сітуацыі, —за што рэдакцыя прыносіць палк. Даўканту шчырую ўдзячнасьць.

На запытаньня карэспандэнта „Покліча“:

а) Ці лічыце Вы патрэбным (у мэтах уцелаішчаньня Літвою сваіх сувэрэнных правоў на Віленшчыну) пашырыць сярод беларускага насельніцтва Віленшчыны кола асоб, сымпатызуючых Літве?

б) Як падтрымаць актыўнасьць і волю, акупаванага жыхарства Віленшчыны ў справе абароны ім сваіх правоў?— пан старшыня сказаў:

—а) Нам дораг ўсякі друг. Мы рэальныя палітыкі і маем ясную, ўсімі слаямі нашага народу падтрыманую, мэту— вызваленьне нашай сталіцы; дзеля гэтага мы можам горача толькі вітаць уселякую падтрымку нам у гэтым напрамку. Воля народу ў гэтым пытаньні настолькі ясна выражана (бяз рожніцы напрамкаў і партый), што ня можа быць ні аднаго Ўраду ў Літве, які мог-бы сайці з гэтага кірунку, ня будучы скінут у тойжа момант. Заходняя Эўропа гэтага не разумее.

б) Асьвета, прапаганда, цярпімасьць у нармальных варунках жыцьця, надзвычайнае напружаньне сіл ў момант.

На запытаньне:

—Ці зможа Польшча задаволіць нацыянальна-прававыя і гаспадарчыя патрэбы Віленшчыны?—
пан старшыня сказаў:

— Па гэографа-фізычным варункам гэты раён мае другія тарговыя шляхі і другі, выпрацаваны жыцьцём, выхад. Эканамічная сувязь з Польшчай Віленшчыны не памагае, а тармозіць гаспадарчае развіцьцё краю. Палітычная гісторыя Польшчы паказвае, што на тых абшарах, якія былі аддзелены ад Літвы рожнымі ўмовамі і далучаны да Польшчы, хутка пачыналася рэакцыя і крывавае паўстаньне, што паказвае

на заўсёдашнюю няўмеласьць Польшчы лагодзіць мяйсцовыя патрэбы з жаданьнямі цэнтру. Думаю, што гэта здарыцца і цяперака.

На запытаньне:

—Чаго можна чакаць ад прыходу да ўлады Пілсудзкага?— пан старшыня палк. Даўкант адказаў:

—Чалавек, які пачынае і ня мае цьвёрдасьці давесьці свой напрамак да канца, ня можа ў доўгі час захаваць аўтарытэт улады. Аслабеўшая цэнтральная ўлада можа стаць цацкаю ў руках маленькіх Жэлігоўскіх, заўлечаных яго лаўрамі. Такім чынам, прыход Пілсудзкага да ўлады—пагроза міру ўсім суседзям Польшчы, але—адначасна і слабасьць апошняй.

На апошняе запытаньне супрацоўніка „Покліча":

—Ці можна спадзявацца на палягчэньне фармальнасьцей у справе атрыманьня правоў літоўскага грамадзянства беларусам, працаваўшым у стралецкіх літоўска-беларускіх арганізацыях?
пан старшыня адказаў:

—Саюз Стралкоў—грамадзкая арганізацыя, якая ня мае голасу ў пытаньнях, датычачыхся да літоўскага грамадзянства. Наогул, гэтае пытаньне ўрэгулявана Канстытуцыяй.—

*А. Г.*

---

*М. Бяздольны.*

# Вар'ят перад кананьнем.

Чакай!... Пусьці!... зноў да мяне
Прыйшлі яны чагосьці...
Ах!... Гэта ты!? Ну сядзь, вось тут.
Напэўна скажаш штосьці.

І не чурайся, а скажы.
Усё скажы мой любы.
Чагож маўчыш!?... Ну гавары!...
Што выстаўляеш зубы?

Што заікнуўся?... што цяпер
Стрымала тваю мову?
Ну, годзе, ведаю... ў цябе
Знайдзець мой смутак схову.

За мной прыйшоў ты? а?.. ха! ха!..
Ну, дзякую. Ты толькі
Жадаеш мне дапамагчы,
Ды загаіць ўсе болькі.

Але чакай. Сягоньня я
Яшчэ царом завуся.
Глянь на мяне! Глянь на палац!
Ўсім гэтым я гарджуся.

Глянь на карону!... Вось яна,
Аж цяжкай мне зрабілась...
Вось скіпэтр... мантыя змяёй,
Ля ног маіх скруцілась...

А слугі? Вось адзін, другі ..
І ўсе чагосьць смяюцца.
Эй ціху!... Чуеце, кажу.
Чаго сюды ўсе пнуцца!?

Ці бачыў ты, як йшоў у
палац,
Як львы мае гарцуюць?
Яны таксама ёсьць цары,
Мяне, цара, вартуюць.

Ну што? Няпраўда ?... За
дзьвярмі
Сайшліcь чагосьці людзі.
Тссс!... Гаманяць. А чуеш стук?
Яны сабе б'юць у грудзі.

Яны чакаюць там цара.
А іх цар я ўладарны!
Вось хутка выйду я да іх,
Прыгожы, вялізарны.

На іх я толькі пагляджу.
І хутка зноў звярнуся,
Што, ты ня верыш, навет, мне?
Дык хочыш? пабажуся!
(Глядзіць на вакно)

О глянь! як шмат іх там
сайшлось...
Бяз ліку, і бяз конца.
Ці ўбачу я калі іх зноў,
Пад лучам гэтым сонца?...

Глянь! Як набожна кожны
з іх
Зьняў шапку і чакае,
Уважліва на гэту дзьвер,
З іх кожны паглядае.

Дарогу дай... Да іх пусьці!...
Хачу ім штосьць сказаці.
Ай!... Ашалелый, прапусьці!
Там—разам мая маці!

Што гэта бунт? А знаеш ты—
Мне свіснуць толькі трэба,
Задаш адразу лататы,
Ня ўбачыш большы неба!..

Ой, маці! маці! Чуеш ты?
Твой сын канае з мукі...
Мой брат каханы, адарві,
Мне з горла гэты рукі.

Яны ўпіліcь... о! Божа мой...
Пусьці!... Адстань!... о люты!...
Я яшчэ жыці, жыць хачу.
Скінь з меня гэты путы...

Надзеі лепшыя мае!
Я мушу вас пакінуць...
Эх! Не пушчу! І ты памры.
Як гінуць дык двум гінуць.

Канаю ўжо!... Прашчай мой люд!
Ўсе мілыя... радныя...
Дыхнуць!... Паветры дайце мне.
Мы дзеці ўсе... слабыя...

# Літва.

## Што зрабіў 3-ці Сойм.

Новы Сойм працаваў паўтара месяца, і за гэты час выканаў наступнае:

Выбраў Прэзыдэнта, прэзыдыум Сойму і Ўрад, адпаведаючых партыйнай большасьці сучаснага Сойму:

Прэзыдэнт—Д-р К. Грініус.

Прэзыдыум Сойму складаюць:

Старшыня—Д-р Стаўгаіціс,

1-шы В.-Старшыня—Кайрыс,

2-гі В.-Старшыня—Сьцепанавічус,

1-шы сэкрэтар—Кіндэрыс,

2-гі сэкрэтар—Жыгяліс.

Склад Ураду—старшыня Кабінэту, Міністр справядлівасьці і часовы Міністр Замежных Спраў—М. Сляжэвічус.

Міністр Унутраных Спраў—В. Пожэла.

Міністр Асьветы—В. Чапінскі,

Міністр Зябляробства—Ю. Крыкшчунас,

Міністр Грашовых Спраў—А. Рымша,

Міністраў Абароны—Я. Папечкіс,

Часова вык. абавязкі Міністра Шляхоў—Б. Тамашэвічус.

Дзяржаўны Кантралёр—Машіота.

У стварэньні Ураду прымалі адпаведны ўдзел дзьве партыі Соймавай большасьці—ляўдзінінкі і с.-д.; гэтым дзьвём партыям належыць 37 галасоў. Урад мае ўмоўнае падтрыманьне з боку таўціннікаў і укіо партыі—5 галасоў і нац меншасьцяў 13 гал. Апазыцыю складае блок хрышч.—30 гал.

Разгледжаны і прыняты ніжэйпададзеныя пастановы і законы Сойму:

Скасавана вайсковае становішча.

Прынят закон аб амністыі палітычным вязьням*).

Адменена, ўведзенае паперэднім Урадам, агранічэньне друку і сходаў.

Прыняты папраўкі аб бальнічных касах і аб страхаваньні працоўных. Пры страхаваньні працоўных цяпер будзе прымаць удзел дзяржава разам з рабочымі і работадацелямі.

---

*) Амністыя не датычацца—абвінавачаных ў агітацыі і шпіёнстве на карысьць варожых дзяржаў; за падгаворы і падстрэкацельства (Vyriausybės Žinios Nr. 230 ad 14-VII 26 г.)

Прыняты папраўкі да закону аб зямельнай рэформе, прычым навасёлам даецца права карыстацца ў працягу трох гадоў будынкамі маёнткаў.

Дадзена права падаваць скаргу на Камісію Зямляўпарадкаваньня за неправідловае надзяленьне зямлёю. Склад павятовых Камісій Зямляпар. будзе папоўнены прэдстаўнікамі міравых судоў, прычым паседжаньні павінны быць адчыненымі.

Урад прыступіў да часьцічнай рэарганізацыі дзяржаўнага апарату і зьмене персанальнага складу сярод адказных урадоўцаў.

———

У стасунку да палепшаньня справы нацыянальных меншасьцяў падымаліся гутаркі ў адпаведных палітычных колах, але канкрэтных вынікаў у першую сэссію новага Сойму асягнута ня было.

Беларусоў цікавіць—як будзе вырашана справа культурнай аўтаноміі, справа атрыманьня права літоўскага грамадзянства і справа канфіскаваных у сялян (беспадстаўна абвінавачаных у русіфікацыі) зямельных участкаў, якія былі аддадзены пад парцэляцыю.

## Перагаворы з Клайпецкай дэлегацыяй.

У пачатку гэтага тыдню ў Коўне распачаліся перагаворы з Клайпецкай дэлегацыяй аб акрэсляньні і усталеньні як палітычных, так і эканамічнѣх стасункаў паміж цэнтральнай Літоўскай Уладай і Клайпецкай Обласьцю.

## Беларускія нац. гурткі.

Як у Коўне, так і ў некаторых вёсках Троцкага павету (Майтагалішках, Н.-Александраўцы, Пастраў'і—Семелішскай воласьці і Балцерышках, Еўінскай воласьці) утварыліся ініцыятыўныя групы для арганізацыі беларускіх нац. гурткоў. Заявы статутаў адасланы павятовым начальнікам для рэгістрацыі.

## Прыгаворы аб адчыненьні беларускіх школ.

Мяйсцовае беларускае жыхарства ў працягу 22-23 г.г. злажыла каля 50 прыгавораў аб адчыненьні беларускіх школ. Некаторыя заявы праходзілі праз б. Міністэрства Белар. Спраў, прычым копіі засталіся ў справах Міністэрства.

Цяпер, пры новым Урадзе, ізноў беларускае сялянства пачало складаць прыгаворы аб адчыненьні беларускіх школ. Наша рэдакцыя атрымала весткі, што вёскі Маітагалішкі, Н.-Александраўка і Завульцы злажылі такі прыгавор з дадаткам сьпісу поўнага камплекту дзяцей школьнага ўзросту. Прыгавор скірован у належную ўстанову.

———

# У рэдакцыю часопісі „Покліч“.

(Лісты з падарожжа).

I.

Паважаныя Грамадзяне!

Дазвольце падзяліцца з Вамі першымі ўражаньнямі майго падарожжа. Учора, прыехаўшы ў Еў'е, скіраваўся да старыка М. Гэта тып абруселага беларуса. Скарыстаць яго як-колечы не ўдалося—ні беларускіх казак, ні песень, ні прыказак ён ня ведае. Больш цікавы яго сын, хоць і абруселы, але адчуваючы сваё нацыянальнае паходжаньне, цікавячыся беларускім рухам, жадаючы сваіх дзетак пасылаць у беларускую школу. Ен дакладае высілкаў, каб арганізаваць беларускі гурток.

Сягоньня адправіўся па вёскам. Найперш, быў у Курклішках. Вёска ня малая, жыхары беларусы, каталікі. Ў гутарцы многа ёсьць польскіх слоў. Нацыянальна не надта сьвядомы, бо ня бачылі ні беларускіх газэт, ні кніжак.

У вёсцы Евінікі жыхары таксама беларусы каталікі. Аснаўныя рысы іх такія, як і ў жыхароў вёскі Курклішкі, але больш цікавяцца беларускімі часопісямі, і хацелі-б іх атрымліваць рэгулярна. Таксама зацікаўлены арганізацыяй каапэратыву.—Прашу прыслаць форму статуту і інструкцыю, як трэба яго залажыць.—Большасьць жыхарства жадае мець беларускую школу. Дзяцей школьнага ўзросту больш 30. Пры гэтым ніякае школы ў іх няма. Спатыкаюцца ў гэтай вёсцы і такія, якія кажуць: „Мы рымскія каталікі і молімся па-польску. Нас ніхто ня вучыў маліцца па-беларуску. Ксёндз гаворыць казаньня або па-польскі, або па-літоўскі. Калі дзеці нашы будуць вучыцца ў школе па-беларускі, то на якой мове будуць Богу маліцца?—Можа ім прыдзецца хадзіць да царквы, а не да касьцёлу“. Адным словам, відаць, у гэтым поўная нясьвядомасьць і блутаніна рэлігыйных паняцьцяў з нацыянальнымі. Магчыма, што на гэтым спекулююць польскія агітатары.

5-VII-26 г. Еў'е. У. Н.

II.

П. Г.!

Я ўсё яшчэ прадаўжаю ў аколіцах Еў'я знаёміцца з беларускім жыхарствам.—Быў у вёсцы Балцерышках. Вёска выключна з беларускім жыхарствам—палова каталікоў, палова

праваслаўных. Бачыўся з паважаным тутака грам. П. Ен сьвядомы беларус і даўно цікавіцца беларускай справай.

Вёска Балцерышкі тры гады назад дамагалася беларускай школы,—быў складзен належны прыгавар, але да гэтага часу школы няма, а дзяцей школьнага ўзросту балей 50.

Грамадзянін П. хацеў-бы таксама залажыць беларускі гурток і з'арганізаваць пры ім драматычную сэкцыю. Будзьце ласкавы, прышлеце яму некалькі сцэнічных твораў.

Пасьля быў у вёсках Аўсянішкі, Белалесьсе, Даўцюлішкі і Дубаўцы. Жыхары лічаць сябе беларусамі, але стараюцца перасыпаць сваю гутарку польскім жаргонам. Адчуваецца даволі вялікі польскі ўплыў. Залажыць зараз якія-колечы беларускія арганізацыі даволі трудна. Гэтаму перашкаджаюць і нацыянальная несьвядомасьць жыхарства і зьявіўшаяся, ў выніку польскай агітацыі, няпэўнасьць у сталасьці сучаснага становішча. Часта даводзілася мне чуць такія запытаньня: „Калі тут будзе „польскае права“?

Перашкаджаюць працы і аб'ектыўныя варункі ў зьвязку з летнімі палявымі работамі сялянства. А таму залажыць гурток—стварыць ініцыятыўную групу, азнаеміць са статутам, сабраць подпісы і заверыць іх, раздабыць гэрбавыя маркі і здаць статут на рэгістрацыю павятоваму начальніку—ўсё гэта патрабуе шмат часу. Мне здаецца, што было-б прасьцей калі-б закладаліся аддзелы беларускага цэнтральнага нац. камітэту,—куды меньш было-б фармальнасьцей.

У вёсцы Аўсянішкі ёсьць даволі энэргічны грам. Е., служыўшы ў беларускім батальёне.—Ен прасіў, каб яму высылалі беларускія часопісі і таксама абецаў паклапаціцца, каб залажыць беларускі гурток. У Н.

9-VIII-26 г. Еў‘е.

III.

П. Г.

Вельмі ўдзячан за атрыманы ад Вас ліст і часопісь. Я цяпер знайходжуся ў Семелішскай валасьці. Каля паловы жыхарства валасьці складаюць беларусы. Кідаецца ў вочы‘ што на ўзрост нацыянальнага пачуцьця ў значнай меры мае ўплыў рэлігійнае вызнаньне. У той час, як праваслаўныя, вызнаючыя сябе беларусамі, ў большасьці жадаюць мець і беларускую школу і беларускія арганізацыі, сярод каталікоўбеларусоў адчуваецца слабы водгук на ўселякія захады для

пашырэньня нацыянальнага самапачуцьця.—Тлумачыцца гэта рожнымі прычынамі: па-перш, несьвядомасьць і неразуменьне нацыянальнай справы—зьмешваньне рэлігійнага пытаньня з нацыянальным; па-другое, рэлігійныя традыцыі, ўзгадованыя, як польскай рэлігійнай кніжкай, так і польскай мовай у касьцёле. Не забылі яшчэ сяляне і пра рэлігійна-нацыянальны ўціск, праводзіўшыйся расейскім царскім урадам.—Змаганьне супраць гэтага ўціску сбліжала беларускае жыхарства з палякамі, пад чыім кіраўніцтвам (як больш з'арганізаваных) гэтае змаганьне адбывалася. Гэтымі ўспамінамі старога мінулага палякі цяпер і карыстаюцца. Яны баламуцяць беларускае сялянства, кажучы яму: „Калі будзеце вызнаваць сябе беларусамі, то вас зробяць праваслаўнымі і прымусяць хадзіць у царкву“. Несьвядомае жыхарства гэтаму верыць і прадаўжае заставацца пад уплывам палякаў, што ўстрымлівае іх ад актыўнасьці ў сэнсе дамаганьня беларускай школы.

Мяйсцовыя сяляне-беларусы ня ведаюць, што ў сучасны момант беларусы-каталікі прыгнетаюцца з боку Польшчы, што шэраг беларускіх месцовых ксяндзоў—Абрантовіч, Петроўскі і Гадлеўскі і др. ня толькі пазбаўлены сваіх парафій, а навет некаторыя апынуліся ў турме, што беларуская часопісь (якую выдае ксёндз Станкевіч латынкаю) часта падпадае пад штраф польскай адміністрацыі, а яе адпаведных рэдактараў саджаюць ў польскую турму. Мала сьвядомае беларуска каталіцкае жыхарства не разумее, што палякі, спекулюючы Хрыстовым Імям, баламуцяць беларускае сялянства, каб падпарадкаваць яго пад уладу польскай шляхты і паноў, што такое баламуцтва яны стараюцца праводзіць, навет у Савецкай Беларусі, дабіўшыся згодна рыжскай умовы, каб каталіцкі арцыбіскуп залежаў ад Польшчы, дзякуючы чаму—назначаюць па ўсім парафіям ксяндзоў, згаджаючыхся выконываць заданьня польскай панскай палітыкі.

Мне здаецца, што аб усім гэтым трэба інфармаваць беларускае каталіцкае сялянства. Ня пашкодзіла-б разасланць ім каталіцкія малітвенікі ў беларускай мове і каб хто-колечы з ксяндзоў гаварыў ім казаньня ў касьцеле па-беларускі.

Таксама затрымлівае нацыянальны рух сярод беларускага каталіцкага сялянства нявыразныя, неакрэсляныя адносіны Літоўскай улады (меўшыя мейсца да гэтага часу). Жыхарства

чамусці баіцца, што калі яно пачне актыўна дамагацца зьдзейсьненьня сваіх нацыянальных правоў, то можа падвергнуцца ўціску з боку адміністрацыі. Словам, для беларускай справы, для яе нармальнай пастаноўкі трэба пакласьці шмат працы.

З паасобных грамадзян зьвяртае на сябе ўвагу ў Семелішках Хв. Ен добры арганізатар, які шмат мне пасобіў у справе азнаёмленьня з мяйсцовым жыхарствам, які обяцаў з'арганізаваць беларускі гурток і злажыць прыгавар аб адчыненьні беларускай школы.

У вёсцы Н.-Александраўка, каля Семелішак, гр. М. таксама дапамагаў і абецаў дапамагчы ў арганізацыйных справах.—У вёсцы Майтагалішках грам. В. так сама ставіцца вельмі прыхільна да беларускай справы. Гады два таму назад, пры яго дапамозе, быў складзен прыгавар аб адчыненьні беларускай школы, але, на вялікі жаль сялянства, школы не адчынілі. Грамадзянін В. абяцаў з'арганізаваць беларускі гурток і панавіць захады аб адчыненьні беларускай школы.—У вёсцы Пастраўе гр. Б. такжа вельмі зацікаўлен арганізацыяй белар. гуртка і школы.

Беларускія часопісі (асабліва „Покліч“) чытаюць ахвотна. Сяляне выказваюць жаданьне і цікавяцца інфармацыяй міжнароднага жыцьця. Гэта зьяўляецца больш зразумелым для іх.

Калі беларускай справай і школай цікавіцца сялянства, то гэтага ня можна сказаць аб большасьці месцовай беларускай інтэлегенцыі, прыкладам гр. Ч. (у Семелішках), які знайходзіцца пад уплывам старых тэнденцый „матушки России“. Ен распачаў са мной вялікія дыскусіі аб беларускай культуры і стараўся даводзіць, што ні беларускай культуры, ні беларускай мовы няма. Ен казаў: „Калі ехаць ад Петраграда да Вільні і прыслухоўвацца да гутаркі сялянства, то ня можна заўважыць пераходу ад расейскай мовы да беларускай“. Адначасна гр. Ч. казаў, што мяйсцовае жыхарства ляпей жадала вучыцца ў тайных польскіх школах у ксяндзоў, чым у расейскіх школах, якіх яно ня лічыла сваімі. Ч. обвінавачваў палітыку царскаго ўраду, забараняўшага беларускія школы, бо маючы беларускія школы, жыхарства не падверглася-б такой паланізацыі. Грам. Ч. навет не заўважыў, як ён сам сабе супярэчыць.

Даволі прыхільнае спатканьне сустрэў ад некаторых літоўскіх грамадзян. Так, адвакат А. дапамог мне азнаёміцца з беларускім мяйсцовым жыхарствам і абецаў у далейшым дапамагаць ў арганізацыйнай справе. У. Н.

17—VII—26 г. Семелішкі. (Працяг будзе).

# Радавая Беларусь.

## Інбелкульт.

### Да пяцігодзьдзя БДУ.

У кастрычніку г.г. спаўняецца 5-ая гадавіна існаваньня БДУ. Сьвята юбілею будзе праведзена ў агульна-рэспубліканскім маштабе. Да юбілею выйдзе з друку гісторыя БДУ праф. Пічэты на беларускай і расейскай мовах.

### У ВУЗ'ах.

Гал. Упр. Прафасьветы ўстанавіла новыя нормы прыёму ў вышэйшыя навуковыя ўстановы БССР у 1926-27 г.

Для БДУ, С-Г. Акадэміі, Вэтэр. Інстытуту і Белар. Выш. Курсаў Беларусазнаўства вызначан у—990 чалавек (у мінулым годзе 1.001).

У 12 пэдтэхнікумаў будзе прынята ў гэтым годзе 1.020 чал.

У мінулым годзе ў 10 пэдтэхнікумаў паступіла 699 слухачоў.

У 3 рабфакі (разам з Віцебскім вячэрнім)—280 чал.

У мінулым годзе лік новых студэнтаў у 4-х рабфаках дасягаў 372 чал.

### Колькі ў БССРдзіцячых пляцовак.

У вёсках БССР сёлета на дзяржаўным бюджэце ёсьць 100 пляцовак, у гарадох 37.

Апроч гэтага, ёсьць шмат пляцовак на ўтрыманьні каапэрацыйных, прафэсыянальных і саматужных арганізацый.

Увесь выхаваўчы пэрсанал пляцовак, якія на дзяржбюджэце, складаецца з пэдфакаўцаў.

### Курсы для дашкольнікаў.

У 1926-27 бюджэтным годзе ў Менску будуць адчынены цэнтральныя курсу па перападрыхтоўцы дашкольных працаўнікоў.

### Наркамасьветы БССР—сябра Міжнароднага Аграрнага Інстытуту.

Ухвалена ўступленьне Нар. Кам. Асьветы БССР у калектыўныя сябры Міжнароднага Аграрнага Інстытуту.

### Агульныя культурна-асьветныя меры.

Калегія НКА пастанавіла:

а) давесьці лік кіно перасовак па БССР да 100 (па 1 на район);

б) адчыніць паказальны с.-г. тэхнікум;

в) арганізаваць курсы кіномэханікаў;

г) падрыхтаваць і распрацаваць сцэнічныя творы для тэатру гораду і вёскі ды інш.

## Дзяржаўны музэй.

### Стражытныя замежныя манэты.

Бобрскае краязнаўчае таварыства, Крупскага райёну прыслала праз Інбелкульт грашовы скарб у ліку 537 дробных срэбных манэт - польскіх, літоўскіх, рыскіх, лівонскіх, шведзкіх, прускіх і інш. Усе манэты XVII стагодзьдзя (1612—1650 г. г.).

Апрача гэтага, музэй набыў 150 ровных іншых манэт і мэдаляў,

### Прылады каменнага веку.

У Дзяржаўны Музэй паступіла з Нова-Быхава 7 штук прыладаў (сякерак, малаткоў) з часоў каменнага веку.

Прылады надзвычайна цікавыя

### Старажытныя беларускія вопраткі.

У Ігуменшчыне набыта сьвітка шэрага саматканага сукна („баярка“), абшытая сінімі канцікамі і аплеценая жычкай. Сьвітка была ў сваім часе сьвяточнай і заразне сустракаецца на Беларусі.

Апрача гэтага, з Віленшчыны набыты цэлы старасьвецкі жаночы гарнітур, вельмі прыгожа вышыты.

### Тысячагадовы скарб.

28 чэрвеня ў Інбелкульт дастаўлена рэдкая археолёгічная знаходка—грашовы скарб, які знойдзен пры ўпадзе р. Остра ў раку Сож каля сяла—Стары-Дзядзін (Калінінск. акр.).

Скарб мае вялізарнае значэньне ў вывучэньні старадаўняй гісторыі Беларусі. Пакуль што ў сялян сабрана 183 срэбных манэт 8-га 9-га стагодзьдзяў: арабскія дыргэмы, візантыйская манэта і адна англасаксонскага паходжаньня. Тамжа знойдзены паперкі з розна каляровых каменьняў таго-ж пэрыяду. Частка дыргэмаў служыла прывескамі для пацеркаў, а большасьць манэт былі грашовы зварот.

Скарб знаходзіўся ў двох гліняных гаршкох. Адзін з іх мае плоскі лінейны арнамэнт славянскага кургальнага пэрыяду. Знойдзеныя манэты сьведчаць аб шырокіх культурнагандлёвых узаемаадносінах Беларусі з краінамі старадаўняга ўсходу і захаду, а таксама і Візантыі. Скарб перададзен у Беларускі Дзяржаўны музэй.

Сялянам, якія знайшлі гэты скарб і т. Гіркант, сябру мясцовага краязнаўчага таварыства, якая здала яго, Інбелкульт выразіў падзяку.

### Праца ЦБ краязнаўства.

За апошнія 2 м-цы ў ЦБ Краязнаўства паступіла з месц каля 4.600 песьняў, прыпевак, казак, прыказак і інш. фольклёрны матар'ял, звыш 10.000 слоў для слоўніка жывой бела-

рускай мовы, 17 новых паведамленьняў аб помніках старажытнасьці, каля 100 матар'ялаў аб фэнолёгічных наглядах, шмат калекцый старасьвецкіх манэт, каменных прыладаў і г. д.

**Старыя запісы беларускіх народных песень.**

На гэтых днях у камісію беларускіх песень Н. К. перададзены з былога архіву нябошчыка А. Бурбіса некалькі дзесяткаў, запісаных яшчэ ў 1900 гадох, беларуск. песень з Віленшчыны і Горадзеншчыны. Запісы каштоўны тым, што, апрача слоўнага тэксту, яны даюць запісаныя мэлёдыі гэтых песень.

**Сувязь з Нью-Іёркскай публічнай бібліятэкай.**

Беларуская дзяржаўная бібліятэка атрымала ліст ад Нью-Іёркскай публічнай бібліятэкі з просьбай выслаць беларускую літаратуру. Дзяржаўная бібліятэка здаволіла просьбу.

**Культурная сувязь з заграніцай.**

БДУ ўзмацніў культурную сувязь з замежнымі навучальнымі ўстановамі, галоўным чынам, з унівэрсытэтамі. Устаноўлен рэгулярны абмен навуковымі выданьнямі з Польшчай, Францыяй, Нямеччынай, Чэхаславакіяй, Японіяй і інш. У замежных навуковых часопісях зьмешчаны артыкулы прафэсараў Рубашова, Кроля, Замоціна і інш.

**Льготы для працоўнай інтэлігенцыі.**

НКА зьвярнуў увагу цэнтральнай камісіі па прыёму вучняў у навучальныя ўстановы на неабходнасьць павялічэньня прыёму ў ВУЗ'ы ў 1926-27 г. працоўнай інтэлігенцыі і яе дзяцей.

# Прамысловасьць, сельская гаспадарка і каапэрацыя.

**Вытворчасьць пашыраецца.**

Віцебская акулярная фабрыка існуе ўжо больш 20 год. Да рэвалюцыі прадукцыя выраблялася саматужным парадкам і ня было нават самай неабходнай хоць бы прымітыўнай мэханізацыі. Сваіх аптычных акуляраў ня было, а яны прывозіліся з-заграніцы гатовымі і на месцы толькі зьбіраліся. Ня гледзячы на тое, што часам фабрыка быма бяз сыр'я і збыту, з пераходам у рукі дзяржавы яна ўвесь час усё шырыцца. Былі выпадкі, што рабочыя па цэлых месяцах не атрымоўвалі заробчай платы, каб толькі падтрымаць фабрыку. Гэта ўсё

кажа за тое, што самі рабочыя бачылі ў фабрыцы нешта сваё роднае і зьвярталі на яе максімум увагі.

Усё гэта не прайшло дарам: фабрыка хутка пайшла ўперад. Зьявіўся попыт на акуляры, і хабрыка пачала мэханізавацца.

Сталі мэханізавацца тачыльнае, паяльнае, паліровачнае, травільнае і частка штамповачнага аддзяленьняў.

З'арганізоўваецца спэцыяльнае мэханічнае аддзяленьне для вырабу апраў. Былі куплены яшчэ 20 электраматораў: новы „дызель“ у 30 сіл.

Летась на дастройку фабрыкі было выдадзена 180,400 рублёў, што дало магчымасьць узьняць прадукцыйнасьць працы, зьменшыць сабекаштоўнасьць прадукту і павялічыць прыбытак фабрыкі. Усё гэта аднак ня можа здаволіць.

Слабая якасьць вырабаў фабрыкі не дазваляе нам канкураваць з-заграніцаю

Трэба помніць і тое, што Віцебская акулярная фабрыка амаль што ці ня будзе адна на ўвесь СССР.

Галоўным чынам фабрыка вырабляе забараніцельныя акуляры, расьпіратары і аптычныя акуляры.

Трэба гэтак сама адзначыць, што, дзякуючы патаненьню нашай прамысловасьці, збыт вырабаў фабрыкі забясьпечан.

За мінулы год фабрыка вырабіла на агульную суму 213,760 рублёў, што складае 212 процантаў намечанай вытворчай праграмы. Ужо за першы квартал 1925-26 году праграма выканана на 156 процантаў.

З пачатку мінулага году на фабрыцы было занята працай 132 чалавекі, а ў сучасны момант ужо 204 чалавекі.

Павялічэньне ліку рабочых было зроблена галоўным чынам за кошт уноў прынятых на фабрыку, добра кваліфікаваных і меней кваліфікаваных ювэліраў і часаўшчыкоў, гэтак сама часткова за кошт вучняў па броні і іншае.

Рэалізуецца тавар уласным гандлёвым апаратам фабрыкі, пры чым, галоўным чынам, тавар збываецца трэстам і сындыкатам і толькі вельмі ня ў значнай меры іншым арганізацыям і прыватным асобам, оптыка на 30 проц. рэалізуецца прыватнымі аптавікамі.

За 1923-24 год гадавой прадукцыі была прадана на суму 138.526 р, а ў 1924-25 г. на 332.334 рублі, што азначае павялічэньне 230 процантаў з лішнім.

Наогул кажучы, як відаць з усяго сказанага, Віцебская акулярная фабрыка мае вялікія дасягненьні.

## Новыя гаспадарчыя дасягненьні БССР.

Адбылося адчыненьне 2 новых корпусаў Мэтпрому ў Віцебску. У першым корпусе будзе зборачны цэх, у другім—мэханічная кузьня.

Дзякуючы адчыненьню гэтых корпусаў, павялічыцца прадукцыя Вітмэтпрому: замест 2500 малатарняў, якія выраблялся да гэтага часу, будзе вырабляцца 3600, замест 5200 веялак—8000, замест 1500 прывадоў—2000.

Колькасьць рабочых павялічыцца з 1092 чалавека да 1220.

На адчыненьні прысутнічала спэцыяльная камісія з членаў ЦБК БССР.

## Аб працы Горнага Аддзелу.

Прэзыдыум ВСНГ зацьвердзіў праграму працы Горнага Аддзелу. Пры гэтым Прэзыдыум зазначыў, што сёнешлета Горны Аддзел павінен прыступіць да досьледу месца знахаджэньня выкапняў, патрэбных для прамысловасьці, а рэшту часу—выкарыстаць на разьведкі месцазнахаджэньня фасфарытаў.

## Падземныя багацьця БССР:

Нядаўна на паседжаньні Прамплану ВСНХБ быў заслуханы даклад т. Блідухі аб падземных багацьцях БССР. На Беларусі меюцца: вялікія залежы **мелу**—ў Койданаўскім раёне, Менскае акругі, Магілеўскім і Калінінскім акругах, **залежы вапняку** і будаўляных глін—у Калінінскім, Аршанскім і Вітэбскім акругах, **чырвонага жалязняку**—ў Бабруйскім, каля М. Свіслач, **фасфарытаў**— у Калінінскай акрузе, **жалезістых мінеральных крыніц**—у м. Лагойску, Менскае акругі і Баркаўшчыне. Вітэбскае акругі, **залежы мергеля**—ў Аршанскай акрузе. Прамплан прызнаў 35 месцанаходжань, маючых агульнасаюзнае і рэспубліканскае значаньне.

Залежы мергеля і мелу могуць забясьпечыць пабудову першага портланд-цэментавага заводу на Беларусі.

Фасфарыты могуць быць шыроко выкарыстаны для паляпшэньня якасьці глебы Беларусі. Вапнякі і гліны вельмі патрэбны для забясьпечаньня сырцом, існуючых керамічных прадпрыімстваў.

Прамплан пастанавіў падняць пытаньне аб заснаваньні прамыслова-эканамічнага падаадзелу. Зроблена пастанова так-

сама зрабіць досьледы тарфяных балот, залежаў мелу ў Койданаўскім і Слуцкім районах, палеозойскіх вапнякоў—у райёне Ворны і Крычава, фасфарытаў—у р. Клімавіч і мергелей —у районе Капысі.

## Зямельная плошча.

Водлуг апошняга досьледу ЦСУ, агульная зямельная плошча дасягае 10.000 000 дзес., якая разьмяркоўваецца так: а) зямлі с.-г. карыстаньня—5.200 000 дзес., б) лясной—2.700.000 дз., в) няўдобнай—1.500.000 дзес., г) вадаёмы, шляхі зносін гарады, пасёлкі і інш.—600.000 дз.

## Сялянскія гаспадаркі.

Па БССР налічваецца 677.261 сялянская гаспадарка. Гэтыя гаспадаркі карыстаюцца 98 проц. усёй зямлі с.-г. значэньня і толькі 2 проц. знаходзіцца пад саўхозамі і калектыўнымі гаспадаркамі. У сярэднім на гаспадарку прыходзіцца да 8 дзес.

## Дзяржаўнае канаводзтва.

НКЗ закончыў досьлед дзяржаўнага коннага заводу ў саўхозе „Велень“, Пухавіцкага р., Менскае акр.

Прызнана неэбходным перавесьці завод у саўхоз „Самуэлева“, Самахвалавіцкага райёну.

## Штучнае разьвядзеньне птаства.

НКЗ атрымаў 8 інкубатараў (машын для штучнага вываду курэй) і 8 элевсэсаў (штучных наседак).

З гэтага ліку 6-ць пар машын адпраўлена ў акругі (Барысаўскую, Бабруйскую, Слуцкую, Віцебскую і Магілёўскую) пташніцкім каапэрацыйным т-вам.

Рэшта машын прызначана для т-ваў Меншчыны і Менскага пэдтэхнікуму.

## Крэдыт для прамысловасьці ВСНГ.

Прэзыдыум ВСНГ акрэсьліў пазыку для прамысловых прадпрыёмстваў у наступным выглядзе: Харчтрэсту—1.000.000 р., Шклотрэсту—900.000 р., Белдзяржмэтпраму—950.000 р, Вітшвэю—90 000 р., Меншвэю—40.000 р., Будаўнічаму трэсту—75.000 р., Скуртрэсту—900.000 р., Лесбелу—3.250 00 р., Папертрэсту—850.000 р., панчошнай фабрыцы—165.000 р., Шчацінаму камбінату—120.000 р. фабрыцы акуляраў—20.000 р., Белдзяржсьпірту—108.000 р, фабрыцы „Дзьвіна“—600.000 р. і заводу „Энэргія“—50.000 р.

### Доўгатэрміновыя пазыкі.

Прэзыдыум ВСНГ лічыць, што ў 4-м квартале доўгатэрміновых пазык патрабуюць гэткія прадпрыёмствы: Лесбел—450.000 р. з надзвычайнага бюджэту, Шклотрэст—140.000 р., Харчтрэст—80.000 р. і Будаўнічы трэст—50.0?0 р. з пазыкі гаспадарчага аднаўленьня і ўправе ільнапрадных фабрык—175 000 р. з прамфонду ВСНГ.

### 1.610.000 руб. на крэдытаваньне сельскай гаспадаркі.

Да кастрычніка сёлетняга году Белсельбанк выдасьць наступныя крэдыты: на закуп працоўнай жывёлы—150.000 р., на с.-г. машыны—300.000 р., на будаўніцтва—50.000 р, Мэліарацыю—150.000 р., земляўпарадкаваньне—290.000 р., на гадоўлю расьлін—130.000 р., на мінэральнае (штучнае) угнаеньне—70.000 р., на закуп рагатай жывёлы—125.000 р., на малочную гаспадарку—110.000 р., і на саматужны промысел—130.000 руб.

Наогул, на крэдытаваньне сельскай гаспадаркі будзе накіравана 1.610.000 руб. з гэтага ліку 665.000 руб. на доўгатэрміновае.

### Разьмеркаваньне сродкаў па акругах.

Усе крэдытныя сродкі разьмяркованы па акругах, а ўласна: Менская—150.000 р., Барысаўскуя—165.000 р., Слуцкая—174.000 р., Бабруйская—185.000 р. Мазырская—165.000 р. Магілёўская—168.000 р., Полацкая—129.000 р., Аршанская—151.000 р., Калінінская—'52.000 р., Віцебская—153.000 руб.

### Крэдытаваньне каапэрацыі Ўсекабанкам.

Па пляну на 3-ці квартал сёлетняга году Ўсекабанк вызначыў на крэдытаваньне ўсіх відаў каапэрацыі БССР 1.221.000 руб., з гэтай сумы каапэрацыя скарыстала 995.900 р.

У 4-м квартале Ўсекабанк мае выдаць каапэрацыі 1.290.000 руб.

—·—

## Будаўніцтва.

### У Дзяржаўнай Плянавай Камісіі.

#### Аб пабудове ў Менску вакзальнага будынку.

Прэзыдыум Дзярж. Плян. Камісіі зьвярнуўся з просьбай да ўпаўнаважанага НК Шляхаў, каб апошні прадставіў у ДПК БССР на разгляд праэкт, каштарыс і плян чарговасьці работ па пабудове вакзальнага будынку на станцыі МББ чыгункі.

Прэзыдыум лічыць, што асыгнаваньне на гэту справу

сродкаў павінна рабіцца з такім разьлікам, каб пабудова была закончана да пачатку 1928 г.

Апроч гэтага прэзыдыум запрасіў у ўпаўнаважанага матар'ялы аб пабудове ў Менску цэнтральнага вакзалу.

**Да пабудовы раёённай электрастанцыі.**

У адмену свае ранейшае пастановы, прэзыдыум ДПК пастанавіў пабудаваць раёённую электрастанцыю магутнасьцю да 20000 кілёват.

Апрача гэтага прэзыдыум зацьвердзіў арыентыроўчы каштарыс Інбелкульту ў суме 9000 р. на правядзеньне гідролёгічных досьледаў на Асінаўскім тарфяным масыве.

**Новы корпус БДУ.**

У сёлетнім годзе распачынаюцца працы па будаваньню галоўнага корпуса БДУ. Працы па будаваньню закончацца на працягу 2-х гадоў. Сродкі на будоўлю корпуса адпускае СНК

**Аб будынку ўнівэрсытэту.**

Згодна апрацаванага праэкту на пабудову будынку ўнівэрсытэту мае адбыцца ўсесаюзны конкурс на ўзвод гэтых будоваў. Таму, што ва ўмове конкурсу пастаўлена, як пажаданьне, выкарыстаць пры будове беларускі архітэктурны стыль, цэлы шэраг маскоўскіх, ленінградзкіх і нават замежных архітэктараў зьвярнуліся ў сэкцыю беларускага мастацтва Інбелкульту за атрыманьнем літаратурных матар'ялаў аб гэтым стылі.

Сэкцыя на ўсе такія запытаньні высылае, па згодзе з старшынёй будаўнічай камісіі пры Наркамасьветы т. Валасэвічам, спэцыяльныя заметкі з зазначэньнем навуковых прац аб беларускім архітэктурным стылі. Такіх паведамленьняў разаслана Інбелкультам больш дзесятку, і можна спадзявацца, што на конкурс паступяць праэкты галоўнага будынку ўнівэрсытэту, які мае будавацца яшчэ з лета гэтага году.

**Пабудова жалезнай дарогі.**

Праведзена ізысканьне і ўжо прыступлена да пабудовы новай жалезнай дарогі—Рослаў-Магілеў, Асіповічы. Дарога перасякае амаль ўсю Беларусь, праходзячы па самых глухіх кутках Р. Беларусі. Пабудова дарогі будзе мець вялікае значаньне: яна звяжа чатыры жал. дарогі—Бранск-Смаленск, Орша-Клінцы, Віцебск-Жлобін, Менск-Гомель. Яна будзе вельмі спрыяць уздыму гаспадаркі краіны.

**Перабудова тэатру.**

Прэзыдыум ДПК пастанавіў выдаць каля 250000 р. на рамонт і пашырэньне Беларускага Дзярж. Тэатру. Тэатр мае

быць пашыран да 1200 месц (зараз 630 месц). Сродкі будуць выкарыстаны ў некалькі тэрмінаў.

Павялічэньне тэатру зробіць яго даступным для шырокіх рабочых мас і на трціну зьнізіць кошт білетаў.

### Рабочы тэатр.

Пабудоўка рабочага тэатру на пляцы Менскага трэку закончылася.

Памяшканьне тэатру разлічана на 1100 ч. Будаўнічыя працы тэатру каштуюць 20.000 р.

### Перабудова заводаў харчовай прамысловасьці.

Будаўнічая праграма заводу „Варшавянка“ на сёлетні год зацьверджана ў суме 77254 р., заводу „Красный Пищевик“— у суме 62641 р., заводу „імя Ленина“—у суме 42393 р. і заводу „Освобожденный Труд“ — у суме 74.215 р.

Па іншых заводах будаўнічыя праграмы зацьверджаны ў суме ад 3.000 р. да 43.000 р., а разам па ўсіх заводах—на 352.389 р.

Агулам па харчавым трэсту —на суму 859.158 р.

### Будаўнічая праца папертрэсту.

На пабудову новых будынкаў, капітальныя рамонты, абсталяваньні і сілавыя ўстаноўкі паператрэсту прэзыдыум ДПК зацьвердзіў суму ў 1227000 р. Пры гэтым адзначаецца, што выкананьне вызначаных работ дасьць магчымасьць павялічыць апрацоўку ў 26-27 годзе на прадпрыёмствах папертрэсту ня менш, як на 50 проц і ў 2 разы павялічыць вытворчасьць бібулы, зьнізіць сабекаштоўнасьць некаторых сартоў паперы ад 4 да 23 проц., павялічыць вытворчасьць працы папяровых фабрык ад 24 да 33 пр.

### Дасьледча-паказальны завод.

Белавіахім намеціў арганізаваць у Беларусі дасьледча-паказальны завод па сухой перагонцы дрэва.

### Цэмент для вясковага агнятрывалага будаўніцтва.

Патрэбы ў цэменце для вясковага агнятрывалага будаўніцтва ў БССР складаюць 20000 бочак цэменту.

Наркамзем БССР узбудзіў хадайніцтва перад Нар. Кам. Гандлю БССР аб дастаўцы цэменту для патрэбаў вясковых арганізацый па агнятрываламу будаўніцтву яшчэ ў гэтым сэзоне.

### Глінабітнае будаўніцтва.

Зараз у БССР ідзе стыхійная перабудова ўсяго вясковага быту і, у першую чаргу, земляўпарадкаваньне. Дзякуючы новым культурным формам землякарыстаньня, ліквідацыі вузкапалосіцы і шматпольнаму севазвароту, вёска стыхійна выходзіць на пасёлкі.

Разьвіцьцё жывёлаводзтва і пашырэньне малочнае вытворчасьці патрабуюць безадкладнай перабудовы дапатопных скотных двароў.

Перадавая частка ў вёсцы ўжо імкнецца да прасторнай і сьветлай хаты і лазьні.

Наркамзем пры ўсім жаданьні ня можа здаволіць узрастаючых патрэб вёскі ў будаўнічым лесе. Гэты ф кт зьяўляецца найвялікшым штырхачом да разьвіцьця агнятрыванага будаўніцтва, у якой галіне дагэтуль у саломенай Беларусі амаль нічога ня зроблена. Па вестках з месцаў, пераважна ў Магілеўшчыне, арганізуюцца таварыствы па агнятрываламу будаўніцтву. Апошнія выраб ляюць чарапіцу, бэтонныя кольцы для калодзежаў ды інш.

Сялянству зараз патрэбны танныя глінабітныя сьцены, яму патрэбен танны агнятрываны дах.

Нам неабходна зараз жа ўзяцца за агітацыю аб будаваньні глінабітных будынкаў у вёсцы, паказаць усё, як зрабіць гэты рух папулярным. Наркамзем намячае спачатку знайсьці хоць па аднаму ахвотніку ў райёне і пабудаваць яму, пры дапамозе мэліярацыйнага органу, паказальныя глінабітныя будынкі.

Апроч таго, маюць быць арганізованы курсы па глінабітнаму будаўніцтву ды інш.

У гэтым павінны прыняць удзел, апроч Наркамзему, усе зацікаўленыя ўстановы.

# Заходняя Беларусь.

## У Варшаўскім Сойме.

**З прамовы дэпутата Тарашкевіча з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказаная на паседжаньні Сойму, 19 ліпня 1926 году ў часе дыскусіі над праектам аб зьмене канстытуцыі.**

Калі Пілсудзкі веў вайну проціў работніцка-сялянскае ўлады саветаў, тады патрэбны былі для народу абяцанкі для сялян, для работнікаў, для беларусаў, для украінцаў.

Але вось вайна скончана, улада буржуазеі ўмацавалася, і абяцанкі сталіся непатрэбнымі. Гутаркі аб зямлі так і засталіся гутаркамі, ня гледзячы на цэлы рад законаў аб рэформе „рольнай“, ад работнікаў адбіраюцца іхныя правы—памалу касуецца 8-мі гадзінны дзень працы—урэшце, зьмяняецца і сама канстытуцыя.

Тысячы лепшых сялян і работнікаў гнояцца па турмах —вы хочаце яшчэ прыдушыць і згнаіць ў вастрогах іхных паслоў. Хоць нас невялічкая жменька, але мы вам нялюбы і страшныя тым, што праўды ня скрываем, што бязлітасна перад усім народам, перад усім сьветам бічуем вас, паны, бічом гэтай самай праўды. Мы разумеем, што гэта вам не маральны біч Пілсудзкага: той больш вас гладзіць, як лупцуе... Вастрогі перапоўнены найлепшымі людзьмі, людзям чэсным і справядлівым—мейсца ў вастрогах!

Так хочуць агранічыць палітычныя правы сялян і работнікаў, палітычныя правы беларускага, украінскага і літоўскага народу.

Урад п. Бартля і Пілсудзкага вельмі пекна дэклямуюць аб нацыянальных меншасьцях, аб сваіх нібы вельмі далёка сягаючых лібэральных замерах. Мы цьвердзім, што курс цяперашняга ўраду ёсьць хутчэй больш страшны для украінцаў і беларусаў, чым курс папярэдніх урадаў. Урад г. зв. маёвай рэвалюцыі ёсьць у грунце рэчы адною з пружынаў англа-амэрыканскага капіталу, таго капіталу, які хоча з Польшчы зрабіць земляробны край, край вывазу збожжа, прадуктаў земляробства і ўвозу з заграніцы тавараў амэрыканскай, ангельскай і нямецкай прамысловасьці.

Урад, які вядзе палітыку аграрызацыі Польшчы, ніколі ня можа пагадзіцца з тэрыторыяльнымі меншасьцямі, а іменна: з беларусамі і ўкраінцамі, бо ясна, што прамысловасьць можа даць значна большай колькасьці рабочых рук заробак, чым зямляробны край. Пілсудзкі і ўвесь яго абоз зьяўляецца патронам польскага асадніцтва на „Крэсах“.

**З прамовы дэпутата п. Валошына з Соймавага Клюбу Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, сказанная 6. VII. 1926 году у часе дыскусіі над Урадавым праектам аб зьменах Канстытуцыі.**

У Польшчы стасуюцца дзьве канстытуцыі: адна пісаная і мертвая з 1921 г., а другая жывая, выражаючаяся ў крывавым тэроры шляхты і адміністрацыі ў адносінах да сялян, работнікаў і ўцісканых нацыянальнасьцяў.

Лёзунгам ураду Бартля-Пілсудзкага зьяўляецца: далоў Сойм! Няхай жыве дыктатура!

Гэта ёсьць плятформа, на якую зыходзіць цяпер міжнародны капіталізм. Капіталізм у сучасны мамэнт чуецца паважна ў небясьпецы і робіць вялікую стаўку: або да канца

здушыць і сьціснуць працоўны люд урадам „моцнай рукі“, або застацца пераможаным. Гэтакую, іменна, гульню распачала польская буржуазея ў паразуменьні з падтрымоўваючым яе заграпічным капіталам.

Капіталістычна-абшарніцкая соймавая большасьць ведае. што пры новым стане рэчы яшчэ мацней возьме лейцы ўраду ў рукі,—ведае, што праводзячы дыктатуру—праводзіць яе для самой себя.

Але мы, прадстаўнікі сялян і работнікаў, уціснанай беларускай нацыі як найвастрэй пратэстуем проці дыктатуры капіталістычна-абшарніцкай супалкі. Мы раскажам шырокім працоўным масам, што цяпер пагражае ім яшчэ большая небясьпека, як раней. Скажам тым масам, што толькі арганізаваная і салідарная барацьба з рэакцыяй можа іх вызваліць з ярма нуды.

### Арганізацыйная праца.

Як паведамляе „Беларуская Справа“ № 29 ад 31-VII-26 г. у працягу першага месяца арганізацыйнай працы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады на вёсках—ад канца чэрвеня да канца ліпеня сёл. г.—створана **67 гурткоў Грамады.**

### Справа кс. Гадлеўскага.

Абаронцы ксяндза Гадлеўскага, засуджанага Віленскім апэляцыйным судом на 2 гады крэпасьці за „процідзяржаўную“ агітацыю сярод сялян, перанесьлі справу ў вышэйшы суд.

У хуткім часе будзе гэта справа разглядацца ў апошняй інстанцыі.

### Сьмерць беларускай настаўніцы.

У вёсцы Круты Бераг, Нясьвіскага павету памерла настаўніца беларускай гімназіі ў Клецку—Ганна Малойла.

У часе масавых арыштаў у Наваградзкім павеце Малойла была арыштавана і прасядзела каля году ў Наваградзкай турме, гдзе яна захварэла на сухоты.

——

## ЛАТВІЯ.

### Беларускі Аддзел узнавіў сваю працу.

Кабінэт Міністраў 28 ліпеня разгледзіў сёл. г. пытаньне аб аднаўленьні чыннасьці Беларускага Аддзелу пры Міністэрстве Асьветы.

Пастаноўлена чыннасьць беларускага аддзелу заразжа аднавіць.

Пытаньне аб сталым кіраўніку беларускага аддзелу, як і папераджаў гр. Міністр Асьветы адведаўшую яго 30 чэрвеня беларускую дэлегацыю,—будзе разглядацца дадаткова.

Часова спаўняючым абавязкі кіраўніка Аддзелу прызначаны дзелавод аддзелу, гр. Г. Плыгаўка.

---

# Што дзеецца ў сьвеце.

## Аб'еднаньне азіяцкіх народаў.

У японскім горадзе Нагасакі сабраўся кангрэс азіяцкіх народаў. Зьехаліса прэдстаўнікі ад 10 нацый (у тым ліку з Кітаю і Індыі). Зьезд адбываўся даволі бурна. Абвінавачвалі Японію, што яна прыгнятае карэйцаў. Больш усяго дэлегаты ганьбілі Англію і Паўночныя Амерыканскія Штаты за тое, што яны імкнуцца эксплёатаваць азіяцкія народы.

Кангрэс парашыў заснаваць Лігу Азіяцкіх Народаў дзеля іх аб'еднаньня. — Каб справа не завяла, ня была падобна да вядомой Лігі Нацый, кангрэс высунуў шэраг практычных пытаньняў. Вырашана: заснаваць супольныя банкі азіяцкіх народаў; потым залажыць унівэрсытэт, жалезнадарожную кампанію; пабудаваць належачыя Саюзу дамы і г. д. Дзеля зносін паміж сабою пастанавілі распрацаваць агульна азіяцкую мову—эсперанто.

## Зямлятрасеньня ў Японіі.

На Японію не перастаюць валіцца ўселякія напасьці: На гэтых днёх здарылася вялікае зямлятрасеньне. Каля 4.000 будынкаў зьнішчана, многа людзкіх ахвяр. Страты дасягаюць многа мільёнаў.

## Хатняя вайна ў Кітаю.

У Кітаю на працягу некалькіх гадоў прадаўжаецца смута. Ніяк ня можа ўтварыцца ўлада, якая падпарадкавала-б сабе ўвесь Кітай. Паасобныя правінцыі вядуць паміж сабою змаганьне.

За апошні год гэта барацьба разьбілася на тры кірункі і праводзіцца трыма гэнэраламі.

У Манжурыі гаспадарыць гэнэрал Чанг-Со-Лін, якога падтрымлівае Японская ўлада.

Ў Сярэднім Кітаю—гэнэрал Ву-Пей-Фу, якога падтрымлівае Англія.

Ў паўднёвым Кітаю—гэнэрал Фенг, які аб'еднываецца з Кантонскім Рабочым урадам, зложаным рэвалюцыйнай партыяй—Гаміндан і з урадам Манголіі.

Зпачатку бойка ішла паміж Чанг-Со Лінам і Ву-Пей-Фу- Гэтым скарыстаўся Фенг, які заўладаў Пекінам і, амаль, усім Кітаем. На выручку Чанг-Со-Ліну прышла Японія, якая дапамагала адбіцца.

Потым Чанг-Со-Лін і Ву-Пей-Фу аб'едналіся супроць Фенга і адабралі ад яго Пекін. — Апошнімі днямі Фенг ізноў наладзіў сваю справу: як паведамляюць тэлеграмы, ён разам з Рэвалюцыйным урадам Кантону да шчэнту разбіў войска Ву-Пей-Фу.

## У Індыі неспакойна.

Як паведамляюць тэлеграмы ў Індыі апошнімі часамі неспакойна. Найбольш моцны і ўплывовы сярод мяйсцовага жыхарства магараджа Гадарабода Назім адхіліў ультыматыўнае дамаганьне ангэльцаў, якія жадалі разам з ім кіраваць, падпарадкаванымі Назіму, абшарамі. Ў звязку з гэтым можа вырынуць канфлікт паміж Англіяй а Індыяй.

Відаць, што ўсе паняволеныя імкнуцца скінуцца з сябе чужацкае ярмо.

## Зьезд нац. меншасьцьцяў у Жэневе.

У верэсані сел г. мае адбыцца зьезд нацыянальных меншасьцяў, арганізаваны Камітэтам пры Лізе Нацый. Не пашкодзіла-б, каб прэдстаўнікі расейска-беларускіх арганізацый у Літве скіравалі туды свайго дэлегата.

---

Redaktorius-leidėjas **Gaidukevičius**.

Рэдактар-выдавец **Гайдукевіч**.